РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 30 (85) 9 – 15 верасьня 1994 г. Кошт 30 рублёў

*Трэба паставіць знак роўнасьці паміж гітлерызмам і камунізмам* – ст. 2

*Як думаць аб прагрэсе, калі ў дзяржаве правяць баль дагматы?* – ст. 3

*Паліцыя Летувы будзе суправаджаць алкагольныя напоі, цукар і тытунёвыя вырабы* – ст. 6

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква – Санкт-Пецярбург*

## ЦЭНЫ ПРЭЗЫДЭНТУ НЯ ПАДПАРАДКОЎВАЮЦЦА?

**Спадзяваньні жыхароў Беларусі, што пасьля выступу 31 жніўня А.Лукашэнка па тэлебачаньню нарэшце спыніцца рост цэн, не спраўдзіліся.**

Пачатак восені азнаменаваўся чарговымі падвышэньнямі цэн. У два разы ўзьняўся кошт тэлефонных размоў у межах рэспублікі, у тры - паездак на прыгарадным чыгуначным транспарце, у два с паловай - міжнародных пасажырскіх перавозак.

Цяжка спадзявацца, што цэны не будуць і надалей расьці. Хаця А.Лукашэнка і забараніў дзяржпрадпрыемствам "неабгрунтавана" падвышаць іх на сваю прадукцыю і прапанаваў шукаць выйсьце са складанага становішча шляхам скарачэньня выдаткаў вытворчасьці. Вытворцы маюць вялікія запазычанасьці, у першую чаргу за энерганозьбіты, а іх вельмі хутка давядзецца ліквідаваць. А каб знайсьці на гэта грошы, давядзецца зноў падвышаць цэны на выпраблямыя тавары. А "абгрунтаваньне" гэтаму можна знайсьці заўсёды (напрыклад, рост курса даляра, кошта электраэнергіі). Нельга забываць пра тое, што з першага верасьня на 50 працэнтаў падаражэў бензін і гэта адаб'ецца на сабекошце прадукцыі. Зразумела, не ў бок яго памяншэньня.

**А.ВОЛАТ.**

## РАВІНУ Ў ГОРАДНІ СПАДАБАЛАСЬ

На працягу лета ў Горадні гасьцяваў іудзейскі сьвятар Іцхак. Кожную суботу ён праводзіў у Гарадзенскай сінагозе багаслужэньні.

На жаль, свайго сьвятара гарадзенскія вернікі-іудзеі ня маюць, таму суботнія службы выклікалі ў іх вялікі інтарэс.

Равін Іцхак цяпер паехаў да Ізраілю, каб атрымаць у Вярхоўным Равінаце згоду і накіраваньне для працы ў Горадні.

**С.ГАРОШКА.**

## ПІЦЬ БУДЗЕМ БЕЗ ЗАКУСКІ

Значна павялічыўся сёлета выпуск моцных напояў на Слонімскім вінзаводзе. За першае паўгоддзе тут выраблена 243 тысячы дэкалітраў разнастайных вінаў. Гэта ў дзесяць разоў болей, чым выраблена і адпраўлена ў гандлёвую сетку безалкагольных напояў.

Абнаўляецца і асартымент. З лета стала выпускаюцца новыя гатункі вінаў "Слонімскае", "Мара", "Беларуская восень", "Загадка". Хутка сланімчане парадуюць пакупнікоў і сваім фірменным лікёрам "Шчара" і саракаградуснай "Водкай Агінскага".

**Ул.інф.**

## СЬВЯТЛО СКАРЫНЫ НЯ ЗГАСЛА

На Лідшчыне шырока адзначалася сьвята беларускага пісьменьніцтва і друку. Яго ладзілі Лідзкая гарадзкая рада ТБМ імя Францыска Скарыны і аддзел культуры Лідзкага гарвыканкама.

30 жніўня адбылася канфэрэнцыя "Сьвятло Скарыны ня згасла". 1-га верасьня прайшлі выступленьні сяброў ТБМ у педагагічным і музычным вучылішчах і школах горада.

2-га верасьня ў 11.00 адбылася сустрэча прыхільнікаў ТБМ з работнікамі культуры раёна. Адбылася прэзэнтацыя новай кнігі лідзкага паэта Івана Саўко "Насуперак лёсу".

Затым на адвячорку адбылася сустрэча ў паэтычнай гасьцёўні, дзе свае творы чыталі Сьвятлана Цішук, Іван Саўко, Станіслаў Суднік, Тадэвуш Чарнавус. Аздабляў сустрэчу беларускімі песьнямі бард Сяргей Чарняк.

3-га верасьня была наладжана сустрэча жыхароў Ліды з мастакамі горада.

Завяршылася сьвята 4-га верасьня мітынгам перад помнікам Францыску Скарыне.

**Ул.ВОЙНА.**

## ДВА АДВЯЧОРКІ ЛЯ «ПАГОНІ НА ГРУНВАЛЬД»

Напярэдадні сьвяткаваньня Дня вайсковай славы беларускага народа ў бітве пад Воршай прадстаўнікі Гарадзенскай Рады БНФ разам з сябрамі грамадзка-палітычнага аб'яднаньня імя К.Каліноўскага правялі дзьве дабрачынныя акцыі па ўпарадкаваньню памятнага знаку "Пагоня на Грунвальд" на Каложскай гары ў Горадні.

Сябры БНФ супольна з актывістамі-каліноўцамі адрамантавалі разбураныя сходы, пасадзілі кветкі, добраўпарадкавалі алею. Вырашана штогод ўпрыгожваць гэтае месца гонару беларускай вайсковай славы.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ВАЙСКОЎЦЫ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

3-га верасьня ў Слоніме прайшоў арганізацыйны сход мясцовай суполкі Патрыятычнага руху "Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў". Створана Слонімская харугва БЗВ пад назовам "Язэп Стаброўскі". Гэта пятая харугва на Гарадзеншчыне. Раней былі створаны Гарадзенская харугва "Грунвальд", Лідзкая харугва "Гэдымін", Смаргонская харугва "Крэўская", Ваўкавыская харугва "Ваўкалака". Ідзе арганізацыйная праца па стварэньню Мастоўскай харугвы.

Патрыятычны рух дзейнічае пад дэвізам "Незалежнасьць, патрыятызм, дэмакратыя."

**С.СУДНІК.**

## ЗНАЙШОЎ, КУДЫ ЗЬБЕГЧЫ!

На мінулым тыдні зьбег у Польшчу беларускі памежнік, узброены табельнай зброяй. Беларускі бок уведаміў польскія праваахоўныя органы аб гэтым здарэньні. Праз два дні парушальнік мяжы быў затрыманы. Чакаецца, што ў бліжэйшы час ён будзе вернуты на Беларусь. Матывы, якія падштурхнулі памежніка зьбегчы ў суседнюю дзяржаву, пакуль невядомыя.

## КАМУНАРЫ НЯ БУДУЦЬ РАБАМІ!

Газета "Пагоня" паведамляла, што былога начальніка гаспадарчага ўпраўленьня Саўміну Георгія Траяна чакае непрыемная размова з прадстаўнікамі сьледчых органаў за выяўленую буйную недастачу.

Як ня дзіўна, але экс-гаспадарнік Г.Траян не спалохаўся. Больш таго - хуценька памяняў месца працы. Прычым новая пасада ў былога галоўнага ўрадавага гаспадарніка таксама вельмі шыкоўная - дырэктар акцыянернага камерцыйнага банку "Прыорбанк".

**СІМ**

## «ЗВЯЗДУ» ЛУКАШЭНКА АЛЯКСАНДРУ РЫГОРАВІЧУ!

**6 верасьня адбылася сустрэча кіраўніка упраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзыдэнта, Аляксандра Фядуты з журналісцкім калектывам рэдакцыі газеты "Звязда". Спадар Фядута ад імя Аляксандра Лукашэнкі прапанаваў журналістам "Звязды" залічыць у сузаснавальнікі газеты Прэзыдэнта.**

Матывуючы выбар Прэзыдэнта, "сват" (менавіта так назваў сябе спадар Фядута) пералічыў асноўныя перавагі "газеты-нявесты" - інтэлігентнасьць, узважанасьць, кампетэнтнасьць і беларускамоўнасьць. Немалую ролю, хіба, адыгралі і асабістыя сімпатыі спадара Фядуты да "Звязды". Больш таго, спадар Фядута паведаміў, што "Звязда" - любімая газета яго мамы. Далей сват Фядута намаляваў каляровую перспектыву газеты, калі яна будзе згодна стаць прэзыдэнцкім выданьнем: мяркуецца, што "абраньніца" будзе выходзіць на васьмі палосах і ў колеры. Адказваючы на пытаньне аднаго з журналістаў, што будзе са "Звяздой", калі яна адмовіцца ўзяць "шлюб" з Лукашэнка, спадар Фядута паведаміў, што да канца бягучага года газета, як і ўсе астатнія рэспубліканскія выданьні, яшчэ будзе атрымліваць дзярждатацыі, а потым будзе вымушана зарабляць сабе на жыцьцё самастойна. Гэты аргумент і адыграў галоўную ролю пры прыняцьці "звяздоўцамі" прынцыповага рашэньня аб пераходзе пад прэзыдэнцкую апеку, бо перспектыва галоднага існаваньня ці поўнага банкруцтва яўна не задавальняла калектыў рэдакцыі. Параіўшыся на працягу гадзіны пасьля адыхода "свата", большасьць журналістаў "Звязды" схілілась да думкі аб тым, каб даць згоду на прапанову Прэзыдэнта. Праўда, пры заключэньні шлюбнага кантракта рэдакцыя намерана прадставіць шэраг прынцыпова важных умоў па захаваньню свайго "суверэнітэта". Аднак, нават калі Аляксандр Лукашэнка на паперы і паабяцае не абмяжоўваць правы журналістаў "Звязды" на іншадумства, то на практыцы прэзыдэнцкай газеце наўрад ці будзе дазволена "своё суждение иметь".

## РАЗВОД ПА-ІВАНАЎСКУ

Жыхары горада Іванава, што на Берасьцейшчыне, засмучаны значным узростам скасаваньня шлюбаў у асяроддзі ўладных структураў. У грамадзкасьці ёсьць версія, што такім чынам пары, скасаваўшыя шлюбы, жадаюць захаваць нядаўна збудаваныя шыкоўныя катэджы разам з добраўпарадкаванымі службовымі кватэрамі.

## ДВОЕ МІЛІЦЫЯНТАЎ «ЗГАРЭЛІ» НА САЛЯРЦЫ

Ва ўпраўленьні ўнутраных спраў Берасьцейскага выканкаму адбылося надзвычайнае здарэньне. Супрацоўнікі рэспубліканскага ўпраўлньня па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю (УБЭЗ) затрымалі ў Жабінкоўскім раёне групу крадзежнікаў, якія здагадаліся выкачаць прама з нафтаправода чатыры тоны дызельнага паліва. Цікава, што сярод злачынцаў двое міліцыянтаў - старэйшы лейтэнант і капітан Берасьцейскага УУС.

**СІМ.**

# НЮРНБЕРГ-2

## КАНФЭРЭНЦЫЯ, ПРЫСЬВЕЧАНАЯ СУДУ НАД КАМУНІЗМАМ

**25-26 чэрвеня 1994 г. у Варшаве праходзіла другая нарада МАК - Міжнароднага Арганізацыйнага камітэту "Нюрнберг-2" (далей скарочана "НБ-2"). Мэта МАК - падрыхтоўка да будучага Міжнароднага Суду над злачынствамі камунізма па аналогіі з вядомым працэсам у г.Нюрнбергу, дзе быў асуджаны фашызм.**

**Ініцыятарам правядзеньня нарады на гэты раз стаў аддзел МАК у Швейцарыі.**

Краіны-удзельнікі: Швейцарыя, Англія, Францыя, Румынія, Канада, ЗША, У'етнам, Польшча, а таксама прадстаўнікі краін былога СССР - пан Казімір Карпіч з Летувы, ды я з Беларусі. Прадстаўнікі Заходняй Эўропы, ЗША і Канады - гэта галоўным чынам эмігранты з краін Усходняй Эўропы і былога СССР. Акрамя краёвых філіяў МАК "НБ-2", у нарадзе бралі ўдзел прадстаўнікі партый, арганізацый накшталт "Мартыралогу", ветэраны Арміі Краёвай і, нават, члены экзатычнай арганізацыі "Саюз палітычных вязьняў, прыгавораных да сьмяротнага пакараньня пад час камуністычнага рэжыму".

Тэмы, якія абмяркоўваліся, адлюстраваны ў 3-х галоўных рэфератах: "Генэзіс паўстаньня і разьвіцьця камунізму", "Злачынствы камунізму", "Спосабы супрацьстаяньня пашырэньню камунізма".

У прамове Юзэфа Шанеўскага (Польшча) было адзначана, што трэба паставіць знак роўнасьці паміж гітлерызмам і камунізмам. Ён падкрэсьліў, што камунізм быў злачынным з самага пачатку (з 1917 г.). У СССР ад камунізму загінула 114 млн.жыхароў (гэта разам з імпартаванымі ў СССР грамадзянамі іншых краін). Асаблівую ўвагу прамоўца надаў экстрамінацыі пры Сталіне цэлых народаў: чэчні, армян, габрэяў, татараў і інш.

Невядомымі для многіх аказаліся зьвесткі, якія прывёў Нгуен Ван Тран з У'етнаму. Ён сказаў, што пасьля 1955 г. ва Ў'етнаме ад камуністычнага рэжыму загінулі дзесяткі мільёнаў людзей. Краіна была пакрытая сеткай канцэнтрацыйных лагероў, людзі паміралі з галоду.

Эдвард Кучак з Канады адзначыў, што з Польшчы выехала каля 1 млн. палякаў і гэта таксама злачынства камунізму. Ён выказаў такую думку: магчыма нашае пакаленьне і не пасьпее асудзіць камунізм. Але матэрыялы трэба зьбіраць зараз. Рана ці позна - Суд адбудзецца.

Польскі камітэт "НБ-2" у сваім апелю выказаўся так: "камунізм як нацызм - ёсьць ганьба ХХ-га веку". Прагучаў заклік аб'ядноўваць намаганьні каб правесьці сусьветны трыбунал над камунізмам: "Нішто не зьяўляецца такім амаральным як безпакаранасьць". І далей: "Мы кіруемся не помстай, а пачуцьцём элементарнай справядлівасьці і логікі. Мы хочам увайсьці ў XXI стагоддзе з чыстым сумленьнем і пераканананьнем, што здолеем стварыць нашым дзецям і ўнукам магчымасьць годнага жыцьця."

Людвік Богдан Мікуць, старшыня Польскага МАК адзначыў, што Нюрнбергскі працэс павінен быць узноўлены і закончаны асуджэньнем таксама і злачынстваў камунізму. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на разсакрэчваньне і абнародаваньне тайных актаў камуністычных краін і арганізацый. Укрываньне ж іх павінна быць крымінальна караным.

Сваю прамову я пачаў з сьцьвярджэньня пра тое, што калі палякі, ды і шэраг іншых народаў, згубілі па некалькі мільёнаў людзей, то Беларусь, акрамя такіх жа фізічных ахвяр, згубіла значна больш - яна згубіла ўвесь свой народ духоўна, беларусы ператварыліся ў пакорлівую, бяздумную, несьвядомую масу "особей", у людзей, якіх ужо цяжка назваць нацыяй у поўным сэнсе слова.

Далей я прапанаваў для абмеркаваньня некалькі распрацаваных намі падыходаў да будучага Суду "НБ-2".

Першы падыход можна было б назваць хрысьціянскім:

- марксізм-ленінізм і нацызм - гэта хула на Духа Сьвятога, адзінае, што не даруецца душам у Вечнасьці;

- на ўзроўні ўмыслу (саміх творцаў гэтых вучэньняў і сьвядомых выканаўцаў) - гэта бесаўская спакуса ліквідаваць Божыя запаветы: НЕ ЗАБІЙ, НЕ ПАЖАДАЙ ДАБРА СВАЙГО БЛІЖНЯГА - толькі ў глабальным маштабе, - спалучаная з прыняцьцём дэманаўскае прапановы, якую ён адрасаваў Самаму Хрысту:"... паказаўшы Яму ўсе царствы сьвету і славу іх. І кажа Яму: усё гэта дам Табе, калі ўпаўшы пакলонішся мне (Мф. IV,8-9)".

Другі падыход з'яўляецца навуковым і прапанаваны ўпершыню намі - Беларускай нацыянальнай партыяй. Ён грунтуецца на тэорыі іерархічных шматузроўневых сістэм.

З пункту гледжаньня гэтай тэорыі Чарнобыльская аварыя - гэта вынік манаполіі адной ідэалогіі, што і прывяло да разбурэньня стану ведаў - вышэйшага стану ў іерархіі ўзроўняў. Нерухомая ідэалогія разьлічана на манапалізм кіраваньня з дапамогай зброі, а не дакладных ведаў і ўменьня. Доўгачасовы адбор у створаныя ідэалогіяй установы кіраваньня зрабіў яе непрацаздольнай, злачыннай і накіраванай супраць цывілізацыі.

Трэці падыход - юрыдычны. Ён грунтуецца на ведах, атрыманых ад першых двух разгледжаных накірункаў і ставіць сабе мэтай распрацоўку сістэмы міжнароднага права па праблеме Суду "НБ-2". Толькі потым можна ўсур'ёз гаварыць аб правядзеньні Суду над камунізмам. Для гэтай мэты павінны быць прыцягнутыя як існуючыя міжнародныя арганізацыі - ААН, ЮНЭСКА, так і створаны новыя, спецыфічныя, мэта якіх - "падвядзеньне юрыдычнай рысы над усімі злачыннымі скрыўленьнямі чалавечай гісторыі".

У выніковых дакументах 2-й міжнароднай нарады МАК "НБ-2" прагучалі заклікі да стварэньня сеткі рэгіянальных камітэтаў "НБ-2". Рэзалюцыя N87 з патрабаваньнем максімальнага спрыяньня і падтрымкі працы па падрыхтоўцы Суду над камунізмам была накіравана ў ААН, прэзыдэнту Польшчы Валэнсе і прымасу Польшчы Глэмпу. Месцам дыслакацыі МАК зьяўляецца Швейцарыя.

Такім чынам, зараз існуе два фактычна незалежныя міжнародныя камітэты "НБ-2" - першы дыслакуецца ў Расеі, другі - у Швейцарыі. Можна сказаць: Усходні і Заходні камітэты. У абодва МАК уваходзіць Беларусь. Само сабой высьпявае пытаньне: ці не час аб'яднаць гэтыя камітэты ў адзін? І менавіта Беларусь павінна ўзяць на сябе гэтую ролю.

Беларусь найбольш за іншыя краіны пацярпела ад фашыстаў пад час 2-й сусьветнай вайны. Цяпер, як вядома, Беларусь - запаведнік камунізму.

Я спадзяюся, што наступны сусьветны з'езд аб'яднанага МАК "Нюрнберг-2" адбудзецца менавіта ў нас, у сталіцы Беларусі - Менску.

**Анатоль АСТАПЕНКА,**
**Старшыня Беларускай нацыянальнай партыі.**

## «АЧЫШЧЭНЬНЕ» УСТУПАЕ Ў БОЙ

Нядаўна па вобласьці папаўзьлі чуткі, што турмы перапоўненых махінатарамі з пасадамі - старшынямі райвыканкамаў і дырэктарамі буйных прадпрыемстваў. А пра Старшыню абласнога Савету дэпутатаў С.Домаша ўвогуле гаварылі, што, баючыся арышту, ён сам падаў у адстаўку. Штосьці не надта ва ўсё гэта верылася, бо сітуацыя нагадала радкі з вядомай песенькі Ул.Высоцкага: "Словно мухи, тут и там ходят слухи по домам, а беззубые старухи их разносят..." Але ў ролі бяззубых бабулек выступілі, як аказалася, дзеячы новай арганізацыі з гучным назовам "Народны саюз па барацьбе са злачыннасьцю і карупцыяй "Ачышчэньне". Аб тым, што бязглуздыя чуткі сыходзяць менавіта адтуль, сказаў сам С.Домаш, які вымушаны быў выступіць у прамым эфіры на абласным тэлебачаньні. Ён сказаў, што ёсьць сілы, якім хочацца сеяць паніку, каб потым атрымаць з гэтага сябе выгоду. Дырэктары прадпрыемстваў працуюць, а абласныя ўлады распрацавалі план дзейнасьці, каб вобласьць у бліжэйшай будучыні забясьпечвала сябе хлебам, цукрам, алеем і нават рыбай. Узьнікае тады пытаньне: дзеля чаго распаўсюджваецца гэтая хлусьня? Можа дзеля таго, што сярод "ачышчэнцаў" ёсьць адстаўнікі СА ды іншыя асобы, якім надта ж не да спадобы тое, што існуе незалежная Беларусь і няма болей СССР. Аднак, паколькі "Ачышчэньне" узьнікла з былой гарадзенскай групы падтрымкі А.Лукашэнкі, дык яго- ныя дзеячы адчуваюць сябе сёньня "на кані".

**Васіль ПЯТРЭВІЧ.**

## БЕЛАРУСКІ «ПАЛІТОЛАГ» І «ФІЛОСАФ»

Афіцыйная і незалежная прэса былых братніх, а цяпер незалежных рэспублік СССР раз-пораз надае ўвагу першаму беларускаму Прэзыдэнту. Асабліва "нетыпова" выказалася эстонская рускамоўная газета "День за днём", друкуючы нататку свайго карэспандэнта В.Метса "Президентский дуплет".

Пра Аляксандра Рыгоравіча В.Метс піша так: "Першым Прэзыдэнтам Беларусі стаў А.Лукашэнка, зрабіўшы стаўку на ўсеагульнае незадавальненьне грамадзтва абвальным становішчам дзяржаўнай эканомікі."

Таму, на думку В.Метса, за Лукашэнку, як за змагара з карупцыяй прагаласавала тры з паловай мільёны выбаршчыкаў. Далей - болей. Аўтар артыкула піша, што Аляксандр Рыгоравіч - юрыст і палітолаг, які дасканала валодае ангельскай і фінскай мовай, ён займаецца гісторыяй і філасофіяй. Да таго ж, А.Лукашэнка - аўтар шэрагу артыкулаў па айчыннаму і эўрапейскаму нацыяналізму, а таксама і нацыянал-нігілізму. В.Метс піша, што беларускі Прэзыдэнт - аўтар кнігі "Беларусь: шляхам дракона", выдадзенай у 1944 годзе. Затым В.Метс перакідаецца да сучаснасьці і канстатуе, што гэта - малады прэзыдэнт (28 год), які зьбіраецца абвясьціць бязлітасную вайну злачыннаму элементу й карупцыі, гарантуе нізкія цэны і жадае аднавіць цэнтралізаваную планавую эканоміку.

Дзе тут праўда, а дзе хлусьня, магчыма, не разбярэ й сам Аляксандр Рыгоравіч.

**Г.ПАДЛЯШУК.**

# СТРАШНА, АЖ ЖАХ!

**Праўленьне Белкаапсаюза ў жаху. Жылі сабе спакойна, гандлявалі, хоць і цяжка было, хоць і прыцiскалі спажывецкую каапэрацыю, больш-менш ціха было. І ў сваю кішэню нешта перападала. А цяпер Лукашэнка і Мясьніковіч сказалі, што пара наводзіць у гандлю парадкі. Менавіта гэтаму і было прысьвечана апошняе паседжаньне кааператараў.**

Трывогу выклікалі ня пагрозьлівыя патрабаваньні, а вынікі паходу Прэзыдэнта па сталічных крамах. Пахадзіўшы па адной з іх, Прэзыдэнт падзякаваў гандлярам, а ў другой заўважыў, што ялавічына ня сьвежая, ды няма малака, і загадаў зьняць дырэктара. Міністр гандлю выдаў загад аб вызваленьні дырэктара з пасады. Толькі выявілася, што міністр ня мае права зьняць дырэктара, бо крама зьяўляецца акцыянерным таварыствам. Галоўны гандляр хацеў адмяніць загад, але Прэзыдэнт сказаў, што ня трэба, няхай дырэктар падае ў суд. А пакуль судзіцца будзе, іншыя спалохаюцца.

І вось задумаліся ў Белкаапсаюзе. Паедзе Лукашэнка ў якую-небудзь вобласьць, зойдзе ў вясковую краму, а там толькі Манька ў халаце, ды кілька ў тамаце. Так што разьвітвайся з працай і дырэктар крамы, і старшыня райспажыўсаюза, і старшыня аблспажыўсаюза. Тым больш, што цяпер справы ў спажывецкай кааперацыі ідуць дрэнна.

Праўда, зьняць з працы работнікаў спажывецкай кааперацыі Лукашэнка ня можа, бо гэта кааператыўная арганізацыя са сваім Статутам і са сваімі правіламі. Але паспрабуй запярэчыць, управу мігам знойдзе. Не дадуць, напрыклад, ільготных крэдытаў, не выдзяляць тавараў... Акрамя таго, закон аб спажывецкай кааперацыі яшчэ не прыняты, і хто яго ведае, што туды можна будзе закласьці. А тады й бывай, спакойнае жыцьцё.

Таму лепш самім распачаць прымаць меры, звольніць каго-небудзь, праінфармаваць пра гэта ўрад і Прэзыдэнта. Глядзіш - пахваляць за прынцыповасьць ды пакінуць у спакоі.

Сёньня ўжо ёсьць першыя кандыдаты на пакараньне. Гэта, напрыклад, дырэктар Наваельнянскай міжрайбазы. Адпусьцілі базе з Навагрудскай швейнай фабрыкі тавары без папярэдняй аплаты, узяўшы слова, што разьлік адбудзецца на працягу трох дзён, а яны расплаціліся праз месяцы, калі грошы сталі нічога ня вартыя. А, магчыма, яшчэ зьнімуць старшыню Гарадзенскага аблспажыўсаюза Івана Калмычкова. Аблспажыўсаюз пляцецца ў хвасьце амаль па ўсіх паказчыках. Вось было б здорава - зьнялі старшыню абласнога ўзроўню ды яшчэ народнага дэпутата Беларусі! Тады даклада Лукашэнка пакінуў бы спажывецкую кааперацыю ў спакоі і ўсе астатнія засталіся б на сваіх месцах.

**Уладзімір СЕМЯНЦОЎ.**

# ШАЛОМ АД ЗЯМЛІ АБЯЦАНАЙ

**Лэйба Барэйша нарадзіўся ў Горадні ў 1951 годзе. Служыў у Савецкім войску ў дарожных частках. Скончыў гістарычны факультэт Гарадзенскага педагагічнага інстытута імя Я.Купалы. Зэміграваў да зямлі абяцанай ў 1980 годзе. Жыве ў Ерусаліме з жонкай і двума сынамі. Нядаўна скончыў і апублікаваў у часопісе "Іерусалім" навуковую працу па сучаснай гісторыі Ўсходніх славян. На жыццё зарабляе даючы ўрокі гісторыі ў прыватных школах. Нядаўна пан Барэйша наведаў сваякоў у Горадні, з дапамогай якіх і адбылася гутарка карэспандэнта "Пагоні" з былым гарадзенцам.**

- Пачнем з таго, што абмінем у нашай размове тэму як я там уладкаваўся і іншае. Мне там добра. Давай лепей пагутарым пра вашае жыццё. Яно ў вас ня мёд. І як мне бачыцца, большасьць маіх былых суайчыньнікаў ня ведае што рабіць і дзе шукаць выйсьця.

**- Тады якія таямнічыя рэцэпты прывёз да Горадні навуковец-гісторык з Ізраілю?**

- Гэта не рэцэпты, а навуковыя дасьледаваньні. Я, калі прыйшоў да такіх высноў, лічыў іх памылковымі. Але патрапіўшы сюды, зразумеў, што не памыляўся.

**- Пра якія высновы йдзе гаворка?**

- Павінен сказаць, што ваша грамадзтва вельмі хворае. Гісторыя хваробы такая, што ў народа, традыцыі якога складваліся стагоддзямі ў адзін момант адабралі ўсе. Вы зараз нагадваеце дзіце ў прабірцы, якое жыве дзякуючы штучным умовам. У натуральных умовах вы загінеце.

**- Няўжо з берагоў Мёртвага мора так сумна й безнадзейна бачыцца пэрспэктыва Беларусі?**

- Бяда ў тым, што тут вельмі мала людзей, якія хочуць і ўмеюць працаваць. Мяне абразіла стаўленьне да працы нават маіх сваякоў. Яны жадаюць пражыць лёгка і ў дастатку за чужы кошт. Мая пляменьніца несаромячыся на маіх вачах перагрэсла амаль усе мае валізкі. Ведаю, што шукала прэзентаў. Другая пляменьніца надакучыла з прозьбай падшукаць ёй кавалера ў Ізраілю. Спажывецтва - вось галоўны парок, які прыдбаў народ Беларусі за годы панаваньня камуністых.

**- Пра гэта мы чулі. Наадварот, мала гаворыцца пра тое,як выйсьці з крызісу?**

- Даць магчымасьці тым, хто яшчэ на нешта здольны, хто здольны працаваць. На жаль, мае прагнозы тут не суцяшальныя.

**- Чаму?**

- Нядаўна чуў па тэлебачаньню, што ў Горадні адбыўся з'езд нейкага "Народнага руху". Пацікавіўся і вызначыў, што там людзі, якія мрояць мінуўшчынай. Як, скажыце, думаць аб прагрэсе, калі ў дзяржаве правяць баль дагматы? Гэта не адзіны прыклад. Зайшоў да крамы і ў даўгой чарзе пачуў наступнае: "Вось некалі ўсё было танна." Той, хто так згадаў, відаць ніколі не задумваўся, за чый гэта кошт было танна. Ведаеш, у мяне склалася ўражаньне, што я - ў краіне спажыўцоў, дзе ўсе чакаюць нейкага месію, які прыйдзе і ўсё наладзіць, усіх накорміць і за гэта ад нікога нічога ня будзе патрабаваць. Каб такое хутчэй скончылася, вам трэба вучыцца кантактаваць з іншымі. Зьбіраць сусьветны вопыт да сваёй скарбонкі й карыстацца ім. Дзьверы цывілізаваных краін, у тым ліку і Ізраіля, адчыненыя для вас. Ідзіце і пераймайце лепшае. У адваротным выпадку апынецеся ў адным шэрагу з краінай пінгвінаў.

# ДЗЕ НАШ БЕЛАРУСКІ ФЛОТ?

**Шмат яшчэ ў каго ў памяці паліцы ў крамах з разнастайнымі рыбнымі кансервамі коштам ад 14 да 35 капеек, 5-6 гатункаў рыбы на прылаўках. Куды гэта зьнікла? Чаму за кілаграм рыбы мы павінны зараз плаціць удвая больш чым плаціць той жа чэх альбо вэнгр? Часткова адказ на гэтыя пытаньні можна знайсьці ў артыкуле нашага пазаштатнага карэспандэнта.**

Тэрмінова, бо час не чакае, трэба вырашыць пытаньне па нашай частцы караблёў ВМФ, грамадзянскага, танкернага і рыбапрамысловага флотаў. Справа ў тым, што ў былым СССР мы плацілі вялікія грошы на будаўніцтва гэтых флотаў. Паколькі СССР распаўся цывілізавана, Рэспубліка Беларусь мае права на пэўную частку гэтых флотаў. І мы павінны патрабаваць, каб усе марскія краіны былога СССР вярнулі нам нашу долю ў караблях (у тым ліку ў ВМФ.) Нам караблі ВМФ не патрэбныя, дык няхай нам вярнуць іх кошт пастаўкамі энэрганосьбітаў і сыравіны неабходных для нармальнага функцыянаваньня нашае эканомікі. У наш час існуе міжнародная канвэнцыя Адкрытага мора. Таму мае сэнс для Беларусі мець свой мірны флот. Падставы для гэтага ёсьць вельмі важкія. На сёньняшні дзень на караблях гандлёвага, танкернага і рыбапрамысловага флатоў былога СССР працуюць 15% асабовага складу грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія сваёй працай спрыяюць росту нацыянальнага багацьця іншых краін. З-за таго, што мы не маем гэтых караблёў, з нас дзяруць "сем скур" за фрахт, за энэрганосьбіты і за прадукцыю рыбнага промысла. Калі б мы мелі свае танкеры, то маглі б купляць больш танную нафту ў нафтаздабываючых краін і не былі б залежныя на ўсе 100% ад Расеі. Менавіта Расея зараз лупіць з нас "сем скур" за "дары мора". Мы знаходзімся ў залежнасьці нават ад паставак рыбнай мукі, без якой наша прамысловасьць не можа наладзіць выпуск добрых камбікармоў. Таму нашаму ўраду і асабіста спадару прэзыдэнту трэба абавязкова паклапаціцца аб тым, каб мы мелі свой мірны флот. Няхай лепш нашы землякі працуюць на сваю Радзіму пад Бел-чырвона-белым сьцягам. Тым больш, што яны вельмі добрыя спэцыялісты і рамантыкі мора. Урад жа можа дамовіцца з Летувой, ці з Расеяй на карыстаньне іх партамі і партовымі збудаваньнямі. Вялікае бяды ня будзе, калі нашыя хлопцы самі будуць мець заробак за фрахт, ці асваеньне для рыбнага промыслу новых мясьцін Міравога акіяну.

**М.ЯРМОЛЕНКА,**
**рабочы.**

# РАСТРАЛЯНАЕ ВЯСЕЛЬЛЕ

На маім вяку давялося двойчы жыць папартызанску. Нашы сем'і грэка-каталікоў Львоўшчыны хаваліся ў лясах разам з жывёлай. Дзеці хварэлі на сухоты, кор, каросту. Замест пасьцелі на ноч клалі сухое лісьце. Падчас дажджлівай пары году да такой імправізаванай пасьцелі дадавалася гольле. Так мы ратаваліся ад жаўнераў Кайзера, а потым Пілсудчыкаў. Цяжка было, але спраўлялі шлюбы, нараджалі дзяцей, хрысьцілі іх па нашых вуніяцкіх звычаях. Калі прыйшла Чырвоная Армія-"вызваліцельніца", то наўзамен доўгачаканай волі й свабоды веравызнаньня мы атрымалі новыя ганеньні. Найбольш актыўных дзеячоў й сьвятароў Вуніяцкай Царквы на Львоўшчыне вывезьлі на Салаўкі ды Калыму. Сьвятыя храмы разрабавалі і зьнішчылі ці перадалі пад склады ды асяродкі Савецкай культуры. Весяліцца мне, вуніяту, на сваім вяку не давялося. Зараз, калі наноў адраджаецца Вунія, хачу згадаць, што Бог даў права ўсім канфэсіям весяліцца, верыць у яго па-свойму. Нельга яшчэ раз на карысць меркантыльных інтарэсаў авантурыстаў-палітыкаў ці фанатыкаўвернікаў растраляць вясельле іншых.

**В.СЕГІНЬ,**
**75 год, Горадня.**

# УЛАСЬНІКА ЎПЛАТНЯЛІ, ДРАБНІЛІ І ВЫСЯЛЯЛІ









**Пра тое, як будаваліся гарадзенцы , мы ўжо пісалі папярэдне. Пра тое, як Савецкімі ўладамі вялася экспрапрыяцыя жыльля ў Горадні, карэспандэнту газеты расказала жыхарка горада з сямідзесяцігадовым стажам Яніна Жураўская.**

- Першае, што напалохала гарадзенцаў, - гэта адносіны "воінаў-вызваліцеляў" да культуры, архітэктуры, назова "гаспадар". Уласьніка прыніжалі, высьмейвалі. Асабліва кпілі з тых, у каго былі прыгожыя вялікія дамы. Мы не разумелі такіх захадаў, бо наехаўшыя пасьля прыходу войска разнастайныя камісары ахвотна сяліліся ў кінутыя гаспадарамі палацы. Займалі не адзін пакой ці хоць паверх, а з задавальненьнем станавіліся гаспадарамі цэлага будынка. Першым ня вытрываў кпінаў лекар-габрэй пан Мойша. Ён кінуў свой дом, што непадалёк сучаснага вайсковага шпіталю, і ад'ехаў да Румыніі. Сьледам, кінуўшы жыльлё па вуліцы 17 верасьня, з'ехалі таксама да Румыніі паны Маісеевы. Традыцыя гэтая захавалася ад польскіх афіцэраў, што пасьля раздзелу Польшчы паміж фашыстоўскай Германіяй і Савецкім Саюзам уцякалі да Румыніі. Чаму - не ведаю, але, падаецца, што з Румыніі было лацьвей ад'ехаць да іншых краін. Таму, хто застаўся прыйшлося нялёгка. Праз час, як ўсталявалася новая ўлада, тых, хто меў добрыя дамы, пачалі вывозіць, як кулакоў, да Сібіры. З нашай вуліцы Граньдзіцкай таксама вывезьлі некалькі сем'яў. Наўзамен гаспадароў засяляліся фінансавыя інспэктары, сем'і вайскоўцаў і агенты па падатках. Кінутага жыльля ўсёроўна не хапіла. Тады ад уласьнікаў пачалі адбіраць частку жыльлёвай плошчы і сяліць савецкіх служачых. Здаралася так, што сапраўдных гаспадароў, спасылаючыся на нейкі закон, і зусім высялялі з хат.

Большасьць выселеных сем'яў вывозілі, а тыя, хто заставаўся - ішлі жыць да сваякоў. За першыя тры месяцы Савецкай ўлады ў Горадні, па маіх падліках, адабралі жыльлё больш як у 30-ці сем'яў.

Дарэчы, ніхто з выселеных і вывезеных сем'яў ні пасьля Другой Сусьветнай вайны, ні пасьля вынішчэньня культу Сталіна Мікітай Хрушчовым да родных месцаў не вярнуўся. А іх дамы, як помнікі, стаяць і нагадваюць пра сваіх гаспадароў.

**Занатаваў Г.АСТРОЎСКІ.**
**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**





# БІТВА ПАД ВОРШАЙ

**Так склалася гістарычна, што сфармаваліся два цэнтры, якія аб'ядноўвалі землі, складаўшыя некалі Старажытную Русь. Вялікім літоўскім князям на Захадзе гэта ўдалося зрабіць хутчэй, чым на Ўсходзе,дзе рускія княствы доўгі час знаходзіліся пад мангола-татарскім ярмом. У XIII - першай палове XIV ст. Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае было адзіным, хто займаўся збіраньнем усходнеславянскіх зямель, і не мела ў гэтай справе саперніка. З другой паловы XIV ст. у дзяржавы-збіральніцы з'явіўся канкурэнт у асобе Маскоўскага княства, якое, разбіўшы татараў на полі Куліковым, прыступіла да аб'яднаньня ўсходняй часткі былой Кіеўскай Русі. Гэтыя дзьве дзяржавы - Русь Літоўская і Русь Маскоўская (менавіта так яны называліся ў тагачасных крыніцах), ў канцы XIV ст. групуючы вакол сябе гарады і пашыраючы свае тэрыторыі, урэшце спаткаліся межамі. Іх сумесная мяжа праходзіла тады ў раёне Мажайска, прыкладна за 100 км ад Масквы. Такое суседства аказалася небясьпечным для народаў абедзьвюх дзяржаў. З гэтага часу паміж імі пачынаецца барацьба, у час якой практычна вырашалася пытаньне: каму з дзьвюх дзяржаў аб'ядноўваць рускія землі і дзе будзе сталіца гэтых зямель: у Вільні ці Маскве?**




Вялікі князь маскоўскі Іван III, унук Вітаўта, які ўзяў у спадчыну дзядзькаву праграму стварэньня адзінай магутнай дзяржавы, ядром якой з'яўляліся б усходнеславянскія землі, падпарадкаваў сабе Разань, Ноўгарад, Пскоў і ў 1485 г. перамог апошняга канкурэнта Масквы - княства Цвярское. Парадніўшыся праз шлюб з Палеолагамі - уладарамі калісь магутнай Візантыйскай імперыі, Іван III прыняў за дзяржаўны герб арла візантыйскіх цэзараў, назваў сябе "государем всея Руси" і, прыпісаўшы сабе ролю спадкаемцы вялікіх кіеўскіх князёў, пачынае выказваць прэтэнзіі на суседнія тэрыторыі, што ўжо мелі сваю асобную дзяржаву, аб'яўляе іх сваёй вотчынай. Ужо ў 1489 годзе польскі кароль і вялікі літоўскі князь Казімір пачуў адкрыты папрок Івана III: "Нашы гарады і валасьці, і землі, і воды кароль за сабою трымае..." Пасьля канчатковага звяржэньня мангола-татарскага ярма (1489г.) і ўзмацненьня сваёй дзяржавы, князь маскоўскі прыступіў да актыўнай экспансіі, абгрунтоўваючы сваю захопніцкую палітыку тэзісам аб праве Масквы на абшары ўсёй былой імперыі Рурыкавічаў: "Вся Русская земля, с Божьею волею, из старины, аж от наших прародителей - наша отчизна." Тытулюючы сябе "государем всея Руси" ён прад'яўляў прэтэнзіі на ўсю праваслаўную Русь, лічачы Казіміра маючым права толькі на адну Літву. Маскоўскі князь ўжо забыўся, што "из старины" яго вотчынай быў невялікі маскоўскі ўдзел.

Вайна стала галоўным сродкам вырашэньня тэрытарыяльнага пытаньня. З 90-х гадоў XY стагоддзя ВКЛ і Вялікае княства Маскоўскае знаходзіцца ў стане вайны. Цэлая іх серыя прайшла з канца XY да сярэдзіны XYI ст.: у 1492-1494, 1500-1503, 1507-1508, 1512-1522, 1534-1537 гг.

Першая з іх выбухнула, як толькі Іван III даведаўся пра сьмерць Казіміра. Тры вялікія арміі рушылі з-за маскоўскай мяжы на тэрыторыю ВКЛ і на працягу 1492-1493 гг. захапілі шэраг зямель і гарадоў да Вязьмы. Новы вялікі літоўскі князь Аляксандр, не жадаючы ісьці на канфлікт з усходнім суседам, намерваўся ўлагодзіць адносіны шляхам шлюбу з Іванавай дачкой Аленай. Пасьля заручын было падпісана мірнае пагадненьне. ВКЛ вымушана было ўступіць значныя тэрыторыі, якія цяпер клінам урэзваліся ўглыб краіны. Дынастычны шлюб, на жаль, не прынёс жаданага міру. Іван III, хоць і не вёў цяпер супраць зяця адкрытай вайны, затое актывізаваў крымскага хана Манглі-Гірэя, з якім быў звязаны мірным пагадненьнем. Называючы яго "братом и другом", Іван III накіраваў хана пустошыць землі суседзяў. Хоць для Манглі-Гірэя Ўкраіна і Беларусь не з'яўляліся вотчынай, але былі месцам добрай спажывы.

У XYI ст. ВКЛ уваходзіла ў складанам ўнутры- і зьнешнепалітычнам становішчы. Штогадовыя набегі татараў: у 1494,1495, 1496, 1497... гадах. Пралікі вялікакняскай нацыянальна-рэлігійнай палітыкі, што прывялі з канца XIY ст. да ўнутранага рэлігійнага разладу, аслаблялі краіну. Праваслаўная знаць усходніх раёнаў дзяржавы, пастаўленая ў нераўнапраўнае становішча з феадаламі-каталікамі, выказвала прамаскоўскія настроі. Усходні ж сусед выкарыстоўваў рэлігійную карту ў сваіх інтарэсах, заахвочваючы іх пераходы разам з зямельнымі ўладаньнямі на бок Масквы.

Мірнай згоды 1494 г. паміж Іванам III і Аляксандрам хапіла на 6 гадоў. Фармальнай зачэпкай для новай вайны з'явілася тое, што ў адной са сваіх грамат літоўскі князь не назваў Івана III гасударом усяе Русі. Абураны гэтым маскоўскі ўладар абвясьціў Аляксандру вайну. Фактычна ж новае сутыкненьне было справакавана пераходам на бок Масквы шэрагу князёў.

14 ліпеня 1500 года паміж вайсковымі сіламі дзяржаў адбылася бітва. "Съехалося войско литовское, - запісаў летапісец, - с московским на Ведрашы (рака, цяпер у Ельнінскім раёне Смаленскай вобласьці), и учинили между собою бой и сечу великую, и побила Москва Литву." У гэтай сечы, што доўжылася амаль цэлы дзень, супраць 40-тысячнага маскоўскага войска выступіла 4-тысячная армія ВКЛ. На чале яе стаяў гетман Канстанцін Астрожскі - галоўны начальнік над войскам дзяржавы. Так, весьці 4 тысячы на 40 - гэта самагубства. Але пасьля нядоўгай нарады гетман вырашыў: "Мала ці многа масквічоў будзе, ды толькі ўзяўшы Бога ў падмогу біцца з імі, а не бійшыся з імі назад не вяртацца." У лютай сечы малалікая коньніца Астрожскага спачатку ашаламіла ворага атакай, але потым, сьціснутая варожымі палкамі, прайграла бітву. Загінулі лепшыя вайсковыя сілы княства, шмат хто трапіў у палон. Сярод захопленых у няволю быў і паранены гетман. У сталіцы Маскоўскай дзяржавы трыумфавалі. Гэта была першая значная перамога маскоўскага войска над ВКЛ у палявой бітве, якіх раней маскоўскія ваяводы пазьбягалі. Трагедыя на Ведрашы стала пачаткам новага этапа супрацьстаяньня гэтых буйнейшых дзяржаў Усходняй Эўропы. ВКЛ цалкам прайграла гэтую вайну і было вымушана пайсьці ў 1503 годзе на перамір'е, паводле якога страціла каля чвэрці сваёй тэрыторыі: 19 буйных гарадоў, у тым ліку Гомель, Бранск, Чарнігаў і 70 валасьцей у вярхоўях Акі, Дзясны, Дняпра і ніжнім цячэньні Сожа. Мяжа прыблізілася да яго жыцьцёва-важных цэнтраў ВКЛ. Аляксандр вымушаны быў прызнаць за цесьцем тытул гасудара ўсяе Русі.

У час замірэньня памерлі і цесьць, і зяць. Посьпехі Івана III у барацьбе з ВКЛ натхнілі яго пераемніка Васіля III на працяг экспансіі. Пасьля няўдалай спробы авалодаць літоўскім тронам (яго кандыдатура не атрымала падтрымкі з боку беларускай шляхты) Васіль III амаль адразу пачаў рыхтавацца да вайны. Рыхтаваўся да яе і новы польскі кароль і вялікі літоўскі князь Жыгімонт.

У 1507 годзе маскоўскае войска зноў уварвалася ў межы княства, сустрэўшы тут падтрымку ў асобе паўстаўшага князя Міхаіла Глінскага - усясільнага фаварыта Аляксандра, які папаў у нямілась пры Жыгімонце. Вайна 1507-1508 гг. не прынесла посьпеху ніводнаму з бакоў і скончылася так званым вечным мірам, па якому ВКЛ прызнавала за Масквой усе далучаныя да яе раней землі.

"Вечнасьць" згоды цягнулася ўсяго 5 гадоў. Яна служыла шырмай для падрыхтоўкі новай вайны. Васіль III паставіў сваёй задачай захапіць эканамічны і стратэгічны цэнтр каля заходніх межаў сваёй дзяржавы - Смаленск. У 1512 годзе вайна аднавілася. Яна працягнулася 10 год. Буйнейшыя яе падзеі адбыліся ў 1514 годзе. Тры наступальныя аперацыі былі арганізаваны на працягу 1512-1514 гг. на буйнейшую крэпасьць ВКЛ. У трэцяй на ліку 80-тысячнае войска пад кіраўніцтвам самога Васіля III тры месяцы асаджала горад. 300 гармат абстрэльвалі яго. Так быў захоплены Смаленск.

Ад смаленскіх муроў маскоўскае войска пачало прасоўвацца ўглыб Беларусі, спустошваючы населеныя пункты, захопліваючы палонных. На досьвітку 8 верасьня яно сустрэлася з 30-тысячнай арміяй ВКЛ ля ракі Крапіўны пад Воршай. Беларускімі палкамі ў гэтай бітве камандаваў князь Юры Радзівіл - стараста гарадзенскі, намесьнік мазырскі, дзяржаўца лідзкі і беліцкі. Агульнае камандаваньне ажыцьцяўляў гетман Канстанцін Астрожскі.

Тады, у 1500 г., пасьля паражэньня на Ведрашы, яго, закутага ў кайданы, прывезьлі ў Маскву, дзе трымалі пад пільным наглядам. Ад гетмана дамагаліся, каб ён перайшоў на службу да Івана III. Атрымаўшы адмову, адвезьлі ў Волагду. Сем гадоў таміўся ён у палоне, лавіў кожную вестку з Айчыны, пакутліва перажываў сваю нявольніцкую бяздзейнасьць. Калі ж пасьля сьмерці Івана III яму ў чарговы раз прапанавалі адумацца і згадзіцца на прапанову князя маскоўскага, Канстанцін Астрожскі... не адмовіўся. Вязьня вярнулі ў Маскву: запатрабавалі падпісаць прысягу аб пакоры і адданасьці Васілю III, а затым надалі годнасьць баярына, зямельныя ўладаньні і высокі вайсковы чын і прызначылі камандаваць асобнымі памежнымі сіламі, абараняць краіну ад татарскіх наездаў. Праз некалькі месяцаў пасьпяховай дзейнасьці супраць татар новы ваявода ўжо карыстаўся даверам маскоўскага двара і мог самастойна адлучацца па справах. Ён скарыстаўся гэтым, і ў 1507 годзе уцёк на радзіму, дзе яму былі вернуты зямельныя ўладаньні, чын гетмана і дадзены новыя пасады.

Бітва пад Воршай з'явілася своеасаблівым рэваншам князя Астрожскага за паражэньне на Ведрашы. Перамога значна меншымі сіламі на Крапіўне стала адной з самых значных ваенных падзей у гісторыі шматвякавога супрацьстаяньня Масквы і Вільні. Яна засталася ў памяці некалькіх пакаленьняў: напісана прысьвечаная бітве карціна, складзена песьня; і мела тады рэзанас у Эўропе, уражаная поўным разгромам вялізнага войска маскавітаў. Іх загінула ад 30 да 40 тысяч, многія трапілі ў палон, у тым ліку ўсе вышэйшыя камандзіры. На Крапіўне быў абаронены суверэнітэт ВКЛ і больш-менш стабілізавана становішча на ўсходніх межах краіны.

Раніцай 9 верасьня гетман рушыў частку сваёй арміі на Смаленск. Але з-за прамаруджваньня, недастатковай колькасьці войска, вярнуць горад не ўдалося.

Перамога пад Воршай не спыніла канфлікта княства Маскоўскага з Літоўскім. Фактычна на працягу ўсяго XYI ст. Маскоўская дзяржава вядзе барацьбу за беларускія землі. Аслабленае гэтымі войнамі і безперапыннымі набегамі крымскіх татараў, ВКЛ к сярэдзіне XYI ст. ужо не магло весьці спрэчку за свае ўсходнія землі, захопленыя Масквой. Суадносіны сіл Масквы і Вільні нязмольна зьмяніліся. Час раўнавагі паміж імі, гэтак трагічна засьведчаны на Ведрашы, быў страчаны разам са стратай Смаленска. У сярэдзіне XYI ст. ВКЛ сустрэлася з дамаганьнямі Івана IY на беларускія і ўкраінскія землі - з'явілася пагроза самаму існаваньню ВКЛ. Ход барацьбы з Маскоўскай дзяржавай і логіка падзей падштурхоўвалі княства да больш цеснага дзяржаўнага аб'яднаньня з Польшчай. Лівонская вайна і далейшыя міжнародныя акцыі ВКЛ, у прыватнасьці, Люблінская унія, былі выкліканы папярэднімі яго адносінамі з Маскоўскай дзяржавай.

**С.ПАЛУЦКАЯ,**
**дацэнт Гродзенскага універсітэта.**

## "ПАГОНЯ НА ГРУНВАЛЬД" ПРЫМЕ ФЭСТ БЕЛАРУСАЎ

**Адбылося паседжаньне аргкамітэта па сьвяткаваньню дня беларускай вайсковай славы ў Горадні.**

**Сьвяткаваньне, як і было вырашана раней, адбудзецца 10 верасьня. Распачнуцца ўрачыстасьці у 17.30 шэсьцем ад Палаца прафсаюзаў да Брацкай магілы ў гарадзкім парку, дзе будуць ускладзены кветкі, а жадаючы складуць прысягу на вернасьць Беларусі. А 19-ай гадзіне адбудзецца ўрачыстая імша ў Каложскай царкве па ўсіх загінуўшых за Беларусь.**

**Завершыцца сьвята фэстам ля памятнага знаку "Пагоня на Грунвальд". У ім прымуць удзел хор "Бацькаўшчына", мясцовыя барды і акцёры.**

**Г.Д.**



## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

**Васіль РАГУЛЯ**

# УСПАМІНЫ

(Працяг. Пачатак у NN 21-29).

### БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКАЯ ЎГОДА ПАСЬЛЯ РАЗГРОМУ ГРАМАДЫ

Пасьля ліквідацыі Грамады пачалася новая ўгода. Спробы з польскага боку пачаліся з першых дзён існаваньня Беларускага Пасольскага Клюбу. Былі створаны, як гаварылі, палітычныя "шопкі" Паўлюкевіча і Валэйшы. Паўлюкевіч, які называў сябе доктарам, атрымаў аднекуль субсыдыю на выдавецтва газэты "Беларускае слова". Газэтка была поўна бесьперапынных нападаў спачатку на Беларускі Пасольскі Клюб, а пасьля стварэньня Грамады, асабліва злосных атакаў на яе. Валэйша, чалавек з крымінальным мінулым, быў умудрыўся нейкім чынам прадаць нейкаму прастаку дзяржаўны дом на Зарэччы ў Вільні. За гэтую афэру ён атрымаў 2 гады турмы, а грошыкі няўдалага купца плакалі. Такому дзялку адміністрацыя дала дазвол на адчыненьне беларускага клюбу, дзе адбывалася газардовая гульня ў карты і п'янства. Мае віленскія сябры запэўнівалі, што ён - агэнт дэфэнзывы. Вось гэткія беларусы і тварылі беларускі ўгадовы лягер. Салідныя беларусы, нават палянафілы, як інж.Дубейкоўскі, не пайшлі на такую работу. Іншых пакуль не было. Патрэбны былі, аднак, паўнавартасныя людзі з незаплямаю апініяй, якія мелі б увагу ў беларускім грамадзтве.

Пасьля ліквідацыі Грамады віленская адміністрацыя і затрымала свой пагляд на Луцкевічу і Астроўскім. Праўдападобна, яшчэ ў турме была зроблена ўгадовая ўмова, і абудва яны былі апраўданы судом і вызвалены. Апынуўшыся на свабодзе, яны заложылі новую партыю "Цэнтрасаюз" з газэтаю "Беларускі Фронт". Да іх употай далучыўся М.Чатырка, настаўнік Беларускай Гімназіі ў Навагрудку, грамадоўскі бажок Навагрудчыны. Пачаліся спробы гаварыць з беларускім народам цераз галовы паслоў і сэнатараў, як тады гэта звалі на ўрадавых і соймавых колах. Беларускі Пасольскі Клюб быў, як і раней, непрымірымы.

Луцкевіч за пасярэдніцтвам газэты, Астроўскі ў гімназіі собскімі рукамі выкарчоўвалі тое, што раней старанна сеялі - грамадоўскі дух. У выніку гэтага цераз некаторы час у гімназіі пачаліся сярод вучняў арышты і звальненьні з гімназіі. Пачаліся пакараньні бацькоў вучняў, на якія, аднак, кіраўцтва гімназіі не зьвяртала ўвагі. Будучыня паказала, што дух не пагас, а толькі затаіўся ў падполлі, што пры зручным моманьце ён вырвецца і сакрушальна ўдарыць ня толькі па ўгодзе, але і па Нацыянальным Пасольскім Клюбе.

Луцкевіч і Астроўскі відавочна спадзяваліся, што выбраны імі шлях прывядзе да некаторых уступкаў з польскага боку на карысьць беларусаў, прынамся ў школьніцтве. Яны забыліся, што маюць дачыненьні з езуітамі, якія песьцяць у глыбіні душы думкі аб поўнай ліквідацыі нашага школьніцтва, толькі не гвалтоўным спосабам, а паступова, выкарыстоўваючы нашую матэрыяльную беззаможнасьць.

Трэцяя ўгода - Янкі Станкевіча, як бязыдэйная і чыста шкурніцкая, не заслугоўвае, каб аб ёй гаварыць. Як жа вытлумачыць "сальто мортале" Астроўскага і Луцкевіча ад Грамады да ўгоды? У ім іграў значную ролю элемэнт асабістай карысьці.

Пасьля разгрому Грамады зачыніліся і крыніцы матэрыяльнай падтрымкі для гімназістаў. Астроўскі застаўся верны сабе: "На беларускую справу буду браць грошы ня толькі ад бальшавікоў, але і ад чорта." Пытаньне, якім коштам здабываліся гэтыя грошы? Як пасьля выявілася, надта вялікім коштам, бо коштам ліквідацыі беларускага школьніцтва. Чорт, зразумела, грошай ня даў, але ад палякаў нешта капала. Толькі гэтыя каплі дзяліліся Вільняю нераўнамерна паміж гімназіямі. Так аднойчы дырэктар Навагрудзкай Гімназіі мне скардзіўся адносна ігнараваньня Астроўскім і Луцкевічам інтарэсаў гімназіі. Паводля ягоных словаў, яны атрымалі значную суму (неправдападобна - 90.000 зл.) і з гэтай сумы ягонай гімназіі нічога не далі. Куды пайшлі гэтыя грошы - ведама толькі тым, што іх атрымалі. Думаю, што гэты факт ведамы былому настаўніку гімназіі А.Орсе.

Гэтыя сродкі ня былі бюджэтным асыгнаваньнем, а выдаваліся ваяводаю з ягоных дыспазыцыйных сумаў. Эндэцка-пястаўская соймавая большасьць ня лічыла патрэбным падтрымоўваньне беларусаў нават у галіне школьніцтва.

### МАЙСКІ ПЕРАВАРОТ 1926 г.

Пасьля выбараў прэзыдэнта Вайцехоўскага, маршал Пілсудзкі адышоў ад дзяржаўнай працы, склаўшы з сябе назоў Галавы Дзяржавы. Цераз некаторы час пасьля гэтага ён аддаліўся ў зацішак адпачынковага прыгараду Варшавы - Сулеювэк. Адтуль ён не пераставаў сачыць за разьвіцьцём дзяржаўных падзеяў у Сойме і вонкі. Яму чамусьці не падабалася "Narodowa Demokracja" і ейныя палітыкі. Сулеювэк зрабіўся цэнтрам, каля якога згуртавалася незадаволенае афіцэрства. Стварылася група так званых палкоўнікаў, якая пасьля сьмерці маршала і кіравала дзяржаваю ды давяла да сумнага канца - разгрому Польшчы Гітлерам. Маршала падтрымоўвала ня толькі афіцэрства, але ў вялікай большасьці і салдаты. Асабліва быў вялікі ягоны аўтарытэт у палках, што былі расквартараваны на "Ўсходніх Крэсах". З чаго пачаўся канфлікт паміж маршалам і ўрадам - ня ведаю. Толькі ў выніку, на загад Пілсудзкага, верныя яму палкі з Пазнаншчыны і Віленшчыны былі скіраваны на Варшаву. Камандаваньне перанняў Пілсудзкі. Было мала войска на баку прэзыдэнта і ўраду. Адбыліся нязначныя сутычкі на вуліцах Варшавы. Урад з прэзыдэнтам уцяклі з Варшавы і затрымаліся ў палацы Віллянаў. Адтуль яны паслалі сваю заяву Пілсудзкаму аб зламаньні сваіх паўнамоцтваў. Соймавай рэакцыі ня было ніякай, бо Сойм меў вакацыі.

Неадкладна скліканы Сойм, можна сказаць, моўчкі прыняў да ведама дакананы факт. Праф. Львоўскай Палітэхнікі Бартэль сфармаваў новы ўрад. Засталося ўзначаліць дзяржаву - выбраць прэзыдэнта. З мэтаю стварэньня адпаведнай большасьці Бартэль пачаў канфэрэнцыі з лідэрамі соймавых партыяў. Ад беларусаў на гэткую канфэрэнцыю былі запрошаны Рагуля і Яраміч. Бартэль прасіў лідараў, каб іх клюбы падтрымалі кандыдатуру Пілсудзкага. Між іншага, ён сказаў, што і без нацыянальных меньшасьцяў маршалу забясьпечана большасьць, але яму хацелася б, каб і яны галасавалі за маршала. Ён прасіў падаць яму мэмарыял з вылічэньнем нашых патрабаваньняў. Ён абяцаў разгледзець яго пункт за пунктам і сказаць: гэта можа зрабіць, гэтага ня можа, аб тым падумае. Мы падалі яму лісту вельмі сьціплых нашых патрабаваньняў. Аднак, абяцанага адказу мы не дачакаліся. Мы адказалі, што, на жаль, мінулая палітыка маршала пярэчыла ўсім ягоным папярэднім абяцаньням, што прынцыповай зьмены ў польска-беларускіх суадносінах мы не чакаем і таму, не авансуючы, будзем галасаваць супроць ягонай кандыдатуры. Праф.Бартэль распісваўся ў сваіх сімпатыях да славянскіх меньшасьцяў, але далей гэтага не пайшоў. Ніякіх канкрэтных прапановаў з ягонага боку не паступіла. Пілсудзкі згадзіўся, каб ягоная кандыдатура на прэзыдэнта была выстаўлена. Сойм большасьцю выбраў яго на становішча Галавы Дзяржавы. Пасьля выбараў ён адмовіўся заняць гэтае становішча і выставіў кандыдатуру свайго старога сябры праф.Масьціцкага. Сойм ізноў такою самаю большасьцю выбраў Масьціцкага. Паўстае пытаньне, чаму Пілсудзкі адмовіўся ад становішча прэзыдэнта? Ён не хацеў, каб апазыцыйнымі выступленьнямі ў Сойме быў падарваны ягоны аўтарытэт. Ён выбраў армію, адхіліў прэзыдэнтуру. Чаму ж тады ён выстаўляў кандыдатуру? Ён ня быў прыхільнікам дыктатуры. Ён быў верны прынцыпам парлямэнтарызму, але ня любіў Сойму ў тым складзе, у якім ён быў. Ён толькі лічыў патрэбным, каб Сойм сваім выбарам яго на становішча прэзыдэнта залегалізаваў ягоны бунт супроць ураду Вітаса і прэзыдэнта Вайцэхоўскага. Выбар быў вотумам даверу і, значыць, легалізацыяй папярэдніх дзеяньняў маршалка.

### ДАЛЕЙШЫЯ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ СУАДНОСІНЫ

Беларускі Пасольскі Клюб, не зьмяняючы свае папярэдняе тактыкі, заставаўся ў апазыцыі да ўраду Бартэля. У адным са сваіх соймавых выступленьняў прэм'ер сказаў, што ўрад будзе гаварыць з беларускім народам цераз галовы ягоных афіцыйных прадстаўнікоў. Гэтая гутарка пачалася за пасярэдніцтвам Луцкевіча і Астроўскага ў Вільні, ды праз М.Чатырку ў Навагрудку. Толькі гэты апошні, будучы лідарам грамадоўцаў Навагрудчыны, затойваў гэта часова перад сваімі аднапартыйцамі. Дзеля зьмягчэньня вастрыні суадносінаў, ваяводаю ў Вільню быў прызначаны Рачкевіч, а ў Навагрудак - польскі ліберал Бэчковіч, які замяніў эндэка Януцяйціса. Бэчковіч, а з ім і навагрудзкі павятовы староста з жонкаю пачалі апекавацца беларускаю гімназіяй зьвяртаючы ўвагу на ейныя другарадныя патрэбы, як арганізацыю хору Валынчыкам.

Паглядзім, якія былі польскія гаспадарчыя мерапрыемствы на нашай тэрыторыі ў гэты перыяд. Спажывецкія каапэратывы былі ў польскіх руках. Існаваў Каапэратыўны Банк у Навагрудку. Удзельнікамі былі палякі. На чале банку стаяў мясцовы ксёндз, чалавек высокасумленны, але даверлівы. Ён быў акружаны мясцовымі акуламі, якія і атрымоўвалі крэдыты залатою манетаю пад вэксалі, жыраваныя іхнімі служанкамі і парабкамі, што нічога ня мелі. Што ж з іх возьмеш, з гэтых жырантаў? Золата плыло ў Мір на закуп сьвіньняў, якіх перапрадавалі ў Навагрудку з добрым даходам на польскія злотыя. Ніхто не сьпяшаўся вяртаць пазыкі, і банк дакаціўся да поўнага краху пасьля сьмерці ксяндза. Сэймік даў крэдыт на 10.000 зл. Калі і гэтыя грошы былі зрасходаваны, дырэктар уцёк. Прыехаў новы, які зьвярнуўся па 50.000 зл. субсыды. У Сэйміку была ў той час беларуская большасьць, якая на маю прапанову і паставіла абсьледаваць стан банку. Запрошаны з Вільні бугальтар, беларус Коўш, устанавіў, што банк у сапраўднасьці ўжо банкрот. Яго, магчыма, здолее выратаваць сума 250.000 зл. На паседжаньні Сэйміку я запрапанаваў: калі банк гіне, дык хай прападуць сэймiковыя 10.000 зл., чым маюць прападаць 50.000, і банк пайшоў пад судовую апеку. Амэрыканскі крэдыт разграбілі на дапамогу нейкаму жаночаму ордэну ў Навагрудку, частка пайшла на дапамогу польскім асаднікам і ўрадоўцам ды на пабудову для іх дамкоў у Наваельні. Рэшткі пусьцілі на закуп цэглы на пабудову цагельні для вырабу цэглы на кашары, што мелі будавацца ў Навагрудку. Пад час чарговай рэвізіі камісія ў складзе: В.Рагулі, Аляксюка і Пронькі ўстанавіла, што ўся цэгла, як дрэнна выпаленая, раскісла пад голым небам і пертварылася ў глінянае месца. Мясцовыя жыды прасілі, каб Сэймік аддаў ім у арэнду пляц, матэрыял і права, прапануючы за гэта 10.000 злотых штогод. Я гэтае пытаньне паставіў на Сэйміку, але ён яго адхіліў, спадзяючыся сам зарабіць пры будове кашараў. Кашары былі пасьля пабудаваны толькі з прывазное цэглы, а ня сэймікавай.

Пры Сэйміку была і жывёлагадоўчая гаспадарка. Каровы з гэтае гаспадаркі нічым не розьніліся ад сярэдніх сялянскіх кароў ані па ўкормленасьці, ані па малочнасьці. Там была і сьвіная ферма з белымі гатунковымі ангельскімі сьвіньнямі. Калі мы заглянулі ў сьвінарнік, дык убачылі, што там ад подсьцілу не было і сьледу, а ў гнойнай жыжы варушылася нешта падобнае да трытонаў ці вадзяных пацукоў. Добры гаспадар не трымаў бы ні мінуты такога кіраўніка, які дапусьціў маёмасьць да гэткага стану. Усё вышэйшае было апісана ў камісійным пратаколе. Сваю справаздачу аб стане гаспадаркі я скончыў словамі: "...мы бачылі паказовую гаспадарку, але толькі паказовую з адмоўнага боку, як ня трэба яе весьці". З вышэйсказанага чытач можа бачыць, якія былі вынікі гутаркі ўраду з беларускім народам цераз галовы паслоў.

Бэчковіч уважаў за неабходнае падняць матэрыяльны дабрабыт мясцовага насельніцтва шляхам камасацыі сялянскіх гаспадарак і палепшаньня галоўнага экспартнага тавару - ільнянога валакна. Атрымалася як у мядзьведзя, што пастанавіў гнуць дугі. Былі зарганізаваны каапэратыўныя фабрычкі ў Празароках (Дзісьненшчына), Гароцьках (Валожыншчына), Любчы (Навагрудчына) і ў Безданах (Сьвянцяншчына). У Вільні паўсталася цэнтраля са штатам працаўнікоў і дырэктарам. Фабрычкі былі каапэратыўныя. Дзеля абачлівасьці адказнасьць была роўна паю, які быў 50 зл.

Урад даваў крэдыты на закуп пляцу, на будову новых будынкаў. У якасьці абаротнага капіталу Любча атрымала: на закуп лёну (выплата пайшчыкам у форме залічкі) - 80.000 зл., на пляц пад будоўлю і машыны - 75.000. Машыны для апрацоўкі лёну былі швэдзкія, маркі "Helsingen", вельмі мала выдайныя.

За два гады было апрацавана ў Любчы 96 тонаў валакна трох гатункаў. Апрацоўка каштавала вельмі дорага. Апрацаванае валакно паслалі на продаж у Англію, ня маючы на гэта ніякага кантракту. Вільня выслала гэтае валакно позна ўвосень, і яно зазімавала ў Лібаве, праляжаўшы там 6 месяцаў. Вясною выслалі яго ў Гандаву, а адтуль у Лёндан і Бэльфаст. З Бэльфасту перавезьлі яго назад у Лёндан, дзе і прадалі за тое, што далі. У Лёндане мы атрымалі менш палавіны таго, што давалі нам на месцы прыватныя купцы. Ім мы ня мелі права прадаць, бо тавар быў задаткаваны "Bankiem Rolnym". Грошы атрымаў банк, а мы павінны былі задавольніцца атрыманым раней задаткам. Да няўмелага кіраваньня далучыўся яшчэ сусьветны гаспадарчы крызіс 1930-31 гадоў. На канфэрэнцыі ў Вільні дырэктар банку Мацулевіч запрапанаваў, каб пагасіць доўг, павялічыўшы паявую адказнасьць у 10 разоў. Я сказаў, каб дырэктар запрапанаваў гэта пайшчыкам сам. Мы ня рызыкуем гэта зрабіць. Так і закончылася польская фабрыкацыя ільнянога валакна і гандаль ім на Заходняй Беларусі.

(Працяг будзе).



# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Прэзыдыум Управы рэгіёна "Салідарнасьць" у Беластоку выступіў з заявай у справе аўкцыёна на "Газету Вспулчэсну". Матывуючы сваё рашэньне купіць газету, Прэзыдыум піша: "Наш рэгіён мае акрэсьленую нацыянальную і рэлігійную спецыфіку. Будзем імкнуцца да таго, каб пражываючае на Беласточчыне насельніцтва каталіцкага, праваслаўнага і іншых веравызнаньняў магло лічыць "Газету Вспулчэсну" сваёй. Мэтай газеты павінна быць зьліквідаваньне ачагоў канфліктаў, зьліжэньне і аб'яднаньне людзей розных нацыянальнасьцяў."

Дарэчы, купіць "Газету Вспулчэсну" намагаюцца пяць фірмаў.

* * *

Беластоцкія чыноўнікі баяцца значнага напłыву рабочых-эмігрантаў з-за ўсходняй мяжы.

Зараз штодня кіраўніцтва прыватных прадпрыемстваў зьвяртаецца ў Ваяводзкае бюро працы за дазволам прыняць на работу замежных грамадзян. Летась было выдадзена некалькі соцень дазволаў на часовую працу рабочых-эмігрантаў. Сёлета іх у шэсьць разоў болей. Пераважна ліцэнзіі выдаюцца на працу беларускім грамадзянам, але ёсьць выпадкі, калі кіраўніцтва просіць дазволу на працу выхадцам з Азіі. На думку Беластоцкіхураднікаў, за дазволам на працу зьвяртаецца толькі нязначная колькасьць уласьнікаў. Асноўная частка дае працоўныя месцы эмігрантам нелегальна і ня плоціць за гэта падаткаў. Па неафіцыйных падліках падчас вясеньня-восеньскіх палявых прац на Беласточчыне нелегальна працуюць да дзесяці тысячаў эмігрантаў.

**По матэрыялах польскага друку.**

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Адбыўся заснавальны з'езд Акцыі Саюза палякаў Летувы па выбарах (АСПЛВ) - палітычнай арганізацыі, прыняўшай палітычныя функцыі ў Саюза палякаў Летувы, які з'яўляецца грамадзкай арганізацыяй, таму не можа ўдзельнічаць у выбарах у мясцовыя органы ўлады.

АСПЛВ лічыць неабходным вярнуць уласьнікам ці іх нашчадкам землі, лясы, воды і іншую нерухомасьць па нарматывах, якія дзейнічалі да савецкай акупацыі.

* * *

З улікам таго, што план па даходах дзяржбюджэта Летувы ня выконваецца (зараз недаатрымана каля 15 працэнтаў запланавых паступленьняў) і з мэтай фінансаваньня неадкладных мерапрыемстваў Урад краіны адобрыў прапанову Мінфіна аб скарачэньні выдаткаў на ўтрыманьне дзяржаўнай улады і ўпраўленьня. Яны ў перыяд верасьня-сьнежня скарачаюцца на адну дзесятую.

* * *

Урад краіны ўдакладніў парадак транзітных перавозак праз Летуву некаторых тавараў. Каляровыя металы, адыходы і лом, а таксама алкагольныя напоі, цукар і тытунёвыя вырабы будзе дазволена правозіць праз тэрыторыю Летувы толькі ў крытых і прыгодных для пламбаваньня транспартных сродках. Іх абавязкова павінна суправаджаць паліцыя. Бензін і дызпаліва дазволена перавозіць толькі па чыгунцы.

Урад даў права мытнікам і паліцыі самастойна ўстанаўліваць маршрут перавозкі транспартных тавараў.

* * *

Зямельная рэформа, якая пачалася ў Летуве тры гады таму, праходзіць даволі цяжка. Зараз зямлю ва ўладаньні маюць звыш ста тысяч чалавек. Большасьць з іх ня ведае, што з ёй рабіць. Моцных гаспадароў, якія б маглі арэндаваць зямлю, можна пералічыць па пальцах. Таварыствы, якія былі створаны з распаўшыхся калгасаў, таксама ня вельмі моцныя, некаторыя ледзьве дыхаюць.

* * *

Урад Летувіскай Рэспублікі пастанавіў уключыць у сьпіс асоб, якія страхуюцца на дзяржаўныя сродкі на выпадак атрыманьня імі раненьняў ці гібелі пры выкананьні імі службовых абавязкаў, прэм'ер-міністра і міністраў, работнікаў паліцыі і ўстаноў унутраных спраў, аховы, пракуратуры, судоў, некаторых міністэрстваў і іншых дзяржаўных інстытутаў.

У выпадку гібелі міністра, для сям'і выплочваецца кампенсацыя ў памеры пяцігадовага службовага аклада. Пры атрыманьні раненьня кожны застрахаваны атрымае кампенсацыю, роўную аднаму-пяці гадовым службовым акладам.

**МГ**



## КРЫЖАВАНКА

**Склаў Вадзім ЮШЧАК**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

5.Раздзел, асобная частка ў дакуменце. 7.Нізкае месца сярод гор. 9.Чалавек, які вядзе празмерна строгі, замкнуты спосаб жыцьця. 10.Невялікі паўзун з доўгім хвастом. 11.Вузкая палоска тканіны. 14.Хросная маці. 15.Груша. 17.Невысокі бар'ер, які прыкрывае ад гледачоў прыборы для асьвятленьня сцэны. 21.Прыслужнік, паслугач. 23.Падсмажаны скрылёк сала. 24.Польскі ўрадавы пасяленец-каланіст на заходнебеларускіх землях у перыяд з 1920 па 1939 г. 25.Круглы пшанічны пірог. 26.Скупнасьць слоў мовы. 27.Гутарка, размова. 28.Ахвотнік да свавольстваў. 31.Пасьцілка, пакрывала з грубага даматканага палатна. 34.Падраздзяленьне ў сістэматыцы жывёл, якое аб'ядноўвае роднасныя сямейства. 37.Аладка, дранік. 38.Усходы, пасевы азімых збожжавых культур. 41.Памяшканьне для стаянкі самалётаў. 42.Мядзьвежая цыбуля. 43.Занавеска на акно. 44.Нагаворы, падкопы. 45.Жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1.Бягун на доўгія дыстанцыі. 2.Каталіцкі манастыр. 3.Акружэньне войск праціўніка для зьнішчэньня ці паланеньня. 4.Выраб з варсістай тканіны для ўпрыгожваньня сцен. 5.Склад зброі. 6.Від спорту: скарасны спуск на лыжах. 8.Плуг з двума адваламі для апрацоўкі прапашных культур. 12.Асобнае памяшканьне ў вагоне. 13.Гліняная пасудзіна шарападобнай формы з вузенькім горлам і плоскім дном. 16.Парода сабак. 18.Нікчэмны, подлы чалавек. 19.Даўней: дзяўчына з панскай або інтэлігентнай сям'і. 20.Сумка, торба. 22.Цяжкапраходны лес. 23.Спалучэньне гукаў у слове, якія вымаўляюцца адным штуршком паветра пры выдыху. 29.Сушаныя ягады вінаграду. 30.Лёс. 32.Шар для вывучэньня верхніх слаёў атмасферы. 33.Чуткі, пагалоскі. 34.У народных гаворках: спадніца з даматканага палатна, паласатая або ў клетку. 35.Знакі ўзнагароды. 36.Кухонны коўш з невялікімі дзірачкамі. 39.Ахова, каравул. 40.У народных гаворках: складзеныя снапы жыта.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗЬМЕШЧАНУЮ Ў N 29:**

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ

2.Сіментальская. 8."Вежа". 9.Гурт. 10.Кандэнсат. 11.Канна. 12.Гліна. 1.Охралехія. 21.Тэрапія. 22.Ткемалі. 23.Разак. 26.Рэпа. 27.Арка. 28.Выдра. 29."Нарач". 30.Старт. 31.Нуга. 32.Кроп. 33.Кадка. 36.Станіна. 38.Вербена. 40.Гарманіст. 43.Адвес. 45.Кухня. 47.Дацэнтура. 48."Мара". 49.Абоз. 50.Церассядзёлак.

ПА ВЕРТЫКАЛІ

1."Меда". 2.Саўна. 3.Епархія. 4.Арэал. 5.Славіст. 6.Ягель. 7.Хрэн. 11.Кветкаводства. 13.Акліматызацыя. 15.Айва. 16.Елка. 17.Арандатар. 18.Спарангій. 19.Мегаспора. 20.Камбайнер. 32."Ранак". 24.Зарад. 25.Качка. 34.Аб'ём. 35.Кмен. 37.Анафаза. 38.Вастрыё. 39.Перац. 41.Агнія. 42.Русак. 44.Драп. 46.Неон.

## ПОЛЬСКАЕ ТЭЛЕБАЧАНЬНЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 12.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Дашкольнікі дома. 11 00 "Дынастыя". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Прыемнае з карысным. 12 30 З верай у новае. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 20 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Школы ў Еўропе. 14 05 Экалогія. 14 20 Паюшчыя галасы. 14 30 Экалагічная праграма. 14 50 3-2-1 - кантакт. 15 15 I цела і дух. 15 35 Пейзаж. 15 45 Дыялог паэтаў. 15 55 Праграма дня. 16 00 Музычны часопіс. 16 25 Альтэрнатывы. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Публіцыстычная праграма. 19 10 Серыял вытв. ЗША. 19 40 Гісторыя польскага тэлебачання. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 15 Тэлетэатр. "Залаты хлопец". 22 55 Мініяцюры. 23 00 Пульс дня. 23 15 Тэлечасопіс. 23 45 Адразу з Бельведэра. 00 00 Навіны. 00 20 "Анёл іскуплення". Фільм вытв. Мексікі. 01 50 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 35 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 00 Мультфільм для дзяцей. 11 30 Праграма по заяўках. 14 00 Панарама. 14 20 "Сын сонца і двчка Луны". Серыял вытв. Нарвегіі. 15 15 Тэлежурнал. 15 55 Прывітанне. 16 00 Мультфільм. 16 40 Спартыўная студыя. 17 00 Тэлежурнал. 17 10 Айчызна. 17 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 18 00 Дакументальны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Кола фартуны. 20 35 Мультфільм. 21 00 "Прыпынак Аляска". Серыял вытв. ЗША. 21 45 Тэлежурнал. 22 00 Панарама. 22 30 Спісы памяціи. 22 40 "Выкраданне Агаты". Фільм вытв. Польшчы. 00 00 Дэпартамент мастацтва. 00 30 Дакументальны фільм. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 Канцэрт.

### АЎТОРАК, 13.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 09 30 Для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Жыццё". Серыял вытв. Японіі. 11 45 Еўрапейскі партрэт. 12 00 Рынак працы. 12 20 Запрашэнне да стала. 12 30 Дамашні юрыст. 12 40 Клуб адзінокіх сэрцаў. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Тэлечасопіс. 14 15 Дакументальны фільм. 14 35 Джойсцік. 14 55 Балтыйскія тэхналогіі. 15 10 З гісторыі тэхнікі. 15 30 Лабараторыя. 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычная праграма. 16 30 Самі аб сабе. 17 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 17 25 Праграма для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Арыя са смехам. 18 40 Аўтаманія. 19 05 Мультфільм. 19 30 Чрэзвычайны перагляд. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Наперакор лёсу". Фільм вытв. ЗША. 23 00 Пульс дня. 23 15 Сеймограф. 23 30 Эканамічная праграма. 00 00 Навіны. 00 15 Дакументальны фільм. 01 05 Публіцыстычная праграма. 01 30 Адкуль гэта уражлівасць? 02 10 Культурна-публіцыстычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 35 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 00 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв. Канады. 11 30 Праграмы па заяўках. 14 00 Панарама. 14 20 "Забароннае каханне". Серыял вытв. Іспаніі. 15 05 Тэлежурнал. 15 55 Прывітанне. 16 00 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв. Канады. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Прадстаўленне 80-хгадоў. 17 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 18 00 Тэлежурнал. 18 10 Лісты з Еўропы. 18 40 Каталіцкая праграма. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Кола фартуны. 20 35 Мультфільм. 21 00 Публіцыстычная праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Экалагічная праграма. 22 40 Рэпарцёры другой праграмы прадстаўляюць... 23 00 "Гаспажа пракурорша". Фільм вытв. Венгрыі. 00 40 Фестываль. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 "На срэбраным шары Зямлі". Фільм вытв. Польшчы.

### СЕРАДА, 14.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Ад калыскі да школы. 12 30 Наша дзяржава. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Тэлечасопіс. 13 50 Што саветуе Чэслаў Мілаш. 13 55 Малая музыка. 14 20 Цішыня і гук. 14 50 І так гэта пачалось. 15 10 Мыслі аб тэлебачанні. 15 50 Праграма дня. 16 00 Маладзёжная музыка. 16 30 Для моладзі. 17 00 "Мода на посьпех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для моладзі. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлетурнір. 19 00 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Спартыўная студыя. 23 15 Пульс дня. 23 35 Дакументальны фільм. 00 00 Навіны. 00 20 "Каратэ па-польскі". Фільм вытв. Польшчы. 02 00 Музычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 35 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 Мультфільм. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Жывёлы вакол нас. 17 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 18 00 Біяграфіі. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Тэлетурнір. 20 35 Мультсерыял. 21 00 "Дела Росі О'Нейл". Серыял вытв. ЗША. 22 00 Панарама. 22 35 Экспрэс рэпарцёраў. 23 05 "Радыёраманс". Серыял вытв. Польшчы. 00 00 Спартыўная студыя. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 Тэлежурнал.

### ЧАЦЬВЕР, 15.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Дзіцячае аддзяленне" Серыял вытв. Англіі. 09 30 Для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 05 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Кулінарная праграма. 12 20 Гэта лёгка. 12 30 Бяседы Дароты Вельман. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 45 Жывёлы свету. 14 05 Дакументальны фільм. 14 20 Жывёлы свету. 14 55 У райскім садзе. 15 10 Праз мара і ільды. 15 30 Як быць маладым, прыгожым і добра вучыцца. 15 50 Праграма дня. 16 00 Маладзёжная музыка. 16 30 Для маладых гледачоў. 17 00 Праграма для моладзі. 17 25 "Дзе Валлі?". Серыял вытв. Англіі. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлетурнір. 18 40 Кіначасопіс. 19 05 "Маленькі цуд". Серыял вытв. ЗША. 19 30 Каталіцкая праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Спякотам тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 22 05 Толькі ў першай праграме. 22 50 Сатырычная праграма. 23 00 Урадавы часопіс. 23 10 Паліцэйскі часопіс. 23 25 Пегас. 00 00 Гаспадарчыя навіны. 00 20 Рэпартаж. 01 00 "Я была тут шчаслівa". Фільм вытв. Англіі. 02 30 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 35 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 "Тарзан". Серыял вытв. Германіі. 16 30 Мульціхобі. 17 00 Тэлежурнал. 17 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 18 00 Рэпартаж. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Кола фартуны. 20 35 Клуб гаспадзіна Рыся. 21 00 Спартыўная студыя. 22 00 Панарама. 22 35 Аўтажурнал. 23 00 "З смярцельнага холада". Фільм вытв. ЗША. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная праграма. 01 15 Кафэ мадэрн.

### ПЯТНІЦА, 16.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Маладыя коннікі". Фільм вытв. ЗША. 12 00 Школа для бацькоў. 12 15 Пашый сама. 12 30 Для меньшасці. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 45 Якая школа? 13 50 Што ні край то звычай. 14 05 Уміраючыя прафессіі. 14 15 Погляд на Германію. 14 40 Фізіяномія кроплі вады. 15 05 Хто ты ёсць? 15 20 Калі не Оксфард, дык што? 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычны тэлетурнір. 16 30 Фестываль танца. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлечасопіс. 18 30 Штотыднёвік культуры. 18 40 Тэлечасопіс спажыўцоў. 19 50 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Дзікая кветка". Фільм вытв. ЗША. 22 45 Пульс дня. 23 00 Дакументальная праграма. 23 45 Забаўляльная праграма. 00 00 Навіны. 00 15 Культурна-публіцыстычны часопіс. 00 45 "Морган". Фільм вытв. Англіі. 02 20 Фестываль танца.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 35 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 Серыял вытв. Даніі. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 Праграма для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 30 "Здроўка". Серыял вытв. ЗША. 18 00 Дакументальны фільм. 18 30 Дакументальны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Адзін з дзесяці. 20 35 Музыяная праграма. 21 00 Публіцыстычная праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Спісы памяці. 22 40 Сатырычная праграма. 23 15 "Наркотыкавыя войны". Серыял вывт. ЗША. 00 45 Рэпартаж. 01 00 Панарама. 01 05 Спорт. 01 15 Забаўляльная праграма.

### СУБОТА, 17.09

**ПРАГРАМА 1**

08 00 З Польшчы. 08 10 Эка-рэха. 08 25 Усё аб агародзе. 08 50 Аграленія. 09 30 Спартыўны часопіс. 09 55 Праграма дня. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма каталіцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Праграма для дзяцей. 12 00 Падводная адысея капітана Кусто. 12 50 Забаўляльная праграма. 13 00 Навіны. 13 10 Забаўляльная праграма. 14 00 Мультфільмы Дыснея. 15 20 Тэлетэатр. "Гарачыя пачуцці". 16 10 Запрашэнне ў тэатр. 16 25 Жывёлы свету. 16 55 Тэлечасопіс. 17 30 Кінапрадстаўленне. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Забаўляльная праграма. 19 05 "Падабраная пара". Серыял вытв. Польшчы. 20 00 Дзіцячы тэлечасопіс. 20 10 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Усё самае важнае". Фільм вытв. Польшчы. 23 00 Фінал латарэі. 00 15 Навіны. 00 25 Спартыўная субота. 01 10 "Цела і кроў". Фільм вытв. ЗША. 03 15 "Пейзаж з рамонкамі". Серыял вытв. Англіі. 04 10 Музычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Раніца. 08 30 Такія адзінокія. 08 55 Прывітанне. 09 00 Грамадзтва ў культуры. 09 30 Мультфільм. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Рэпартаж. 11 30 Праграма пра жывёл. 12 00 Праграма для дзяцей. 13 00 Акадэмія польскага кіно. 15 05 Прыгоды Эрвіна Рэспондка. 15 30 Жыццё побач з намі. 16 00 Апетыт. 16 40 Прывітанне. 16 45 Тэленавэла. 17 00 Серыял вытв. ЗША. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Дакументальны фільм. 18 40 Музычная праграма. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 19 30 Семь дзён - свет. 20 00 Тэлетурнір. 20 30 Дзірка ў кошыку. 21 00 Тэлежурнал. 22 00 Панарама. 22 30 Слова на нядзелю. 22 35 Музыкчны журнал. 23 05 "Невада Сміт". Вестэрн вытв. ЗША. 01 10 Панарама. 01 15 Музыкчная праграма.

### НЯДЗЕЛЯ, 18.09

**ПРАГРАМА 1**

08 00 Далёка і блізка. 08 15 Тыдзень. 09 00 Сельскагаспадарчая праграма. 09 30 Праграма для дзяцей. 11 05 Серыял вытв. Канады. 12 00 Навіны. 12 10 Біяграфічны сервял вытв. Англіі. 13 15 Тэлеканцэрт пажаданняў. 13 45 З камерай сярод жывёл. 14 00 Лабараторыя. 14 20 Перац і ваніль. 15 00 У старым кіно. 16 05 Дакументальны фільм. 16 30 Сто пытанняў. 17 00 Забаўляльная праграма. 17 35 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Можна пасмяяцца. 19 00 "Дынастыя Колбі". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Дачка сэнатара". Серыял вытв. Канады. 22 05 Спартыўная нядзеля. 22 50 Публіцыстычная праграма. 23 20 Вечар з Аліцыяй. 00 20 Дамашнія сустрэчы. 00 45 "Вялікі Шу". Фільм вытв. Польшчы. 01 55 Вакол вялікай сцэны.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Рэха тыдня. 08 30 Фільм для глухіх. 09 20 Слова на нядзелю. 09 25 Прывітанне. 09 30 Забаўляльная праграма. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Канцэрт. 12 00 Серыял для дзяцей. 12 50 Студыя другой праграмы. 13 00 "Сястра, наперад". Фільм вытв. Англіі. 14 25 Скрытая камера. 15 00 Падарожжа ў часе і прасторы. 15 55 Тэлежурнал. 16 00 Тэлетэатр для дзяцей. 16 30 Музычная праграма. 17 00 Серыял вытв. ЗША. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Шанц на поспех. 19 00 Падзеі тыдня. 19 25 Спартыўны тэлежурнал. 19 50 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Мультфільм. 21 00 Спецыяльная лінія. 22 00 Панарама. 22 30 Тэлежурнал. 23 20 "Вялікія батальёны". Серыял вытв. Англіі. 00 15 Литаратурна музычная праграма. 01 00 Панарама. 01 05 Музычная праграма.

